


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

27 лістапада 2015 года №48 **(1074)**

## Чаму ў школах і садках у бацькоў патрабуюць пашпарт, каб вярнуць дзіця

старонка **2**

## Колькі каштуе адчуванне Новага года: ёлкі, убранне, падарункі

старонка **3**

## У аматарскіх хакейных камандах гуляюць і пенсіянеры, і школьнікі

старонка **22**



# У крамах, куды людзей прыводзіць не шчасце, пануюць кветкі



старонкі **20-21**

Фота papus666.narod.ru.

ПАМЯЦЬ

## Пайшоў з жыцця былы рэжысёр Мінскага абласнога драмтэатра Мікалай Дзінаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра таленавітага творцу гаворыць дырэктар Мінскага абласнога драмтэатра Юры Крывенькі.**



– Трагічная выпадковасць. У пятніцу, 13 лістапада, на чыгунцы ў Бабруйску Мікалая Мікалаевіча адкінула парывам цягніка, які праходзіў міма. Смерць наступіла імгненна. Перад гэтым ён доўга хварэў, перанёс аперацыю на апорна-рухальны апарат, – прыгадвае Юры Паўлавіч. – Гэта быў светлы, пазітыўны чалавек, з вялікім жыццёвым досведам. Ён умеў знаходзіць падыходы да людзей, з ім было прыемна гутарыць. У маім сэрцы ён пакінуў светлую паласу.

У Мінскім абласным драмтэатры Мікалай Дзінаў паставіў два дзіцячыя спектаклі: "Цырк, Цырк, Цырк!" і "Балаганчык!".

Яшчэ адзін спектакль "Падобны на Стынга", пастаўлены ім у Маладзечне, зрабіў тэатру гонар. Пастаноўка была прэтэндэнтам на Нацыянальную тэатральную прэмію 2014 года. Яе паказалі на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

– Мікалай Мікалаевіч хапаўся за жыццё. Апошнія яго праекты – пра жыццё, пра лёсы людзей. Мяне засмучае, што такі чалавек ад нас пайшоў. Аднак пасля выхаду такіх людзей застаецца светлае.

У кастрычніку 2013 года тагачасны мастацкі кіраўнік Мінскага абласнога драмтэатра Мікалай Дзінаў святкаваў 55-годдзе ў тэатральным жыцці. Тады "РГ" задавала яму пытанне "Што вы можаце назваць самым вялікім узлётам і самым вялікім падзеннем свайго жыцця?" Мікалай Мікалаевіч адказаў так:

– Ведаеце, у мяне яшчэ не было ўзлётаў. Гэта так, планаванне над зямлёй. Але і падзенняў не было. Разумееце, тэатр – гэта пераадоленне. І ў першую чаргу сябе. Трэба ўсё з сябе пачынаць. Дзякуй, што жыццё мяне так памяла, затое зрабіла тым, кім я ёсць.

Мікалай Дзінаў пайшоў з жыцця ў 74 гады. Нарадзіўся ён у Маскве. Сваёй другой радзімай называў Беларусь.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Фота ілюстрацыйнае. На здымку вучні Ільянскай школы на Вілейшчыне.**

БЯСПЕКА

# У школах у бацькоў патрабуюць пашпарт, каб вярнуць дзіця

МАЛАДЗЕЧНА

**"Бачылі б вы карціну, калі тры гады таму паступіла паведамленне аб мініраванні школ, як у сталовай засталіся на сталах надкусаныя цукеркі і печыва, вы б не пыталіся, нашто такія меры", – адказала на пытанне дырэктар гімназіі № 6 Ала Ярашэвіч.**

Паведамленне пра тое, што ў бацькоў патрабуюць пашпарт на ўваходзе ў гімназію, напісала ў сацыяльнай сетцы мама вучня гэтай гімназіі.

"Рэгіянальная газета" распытала ў дырэктара гімназіі, навошта такія жорсткія меры?

Ала Ярашэвіч патлумачыла, што гэта не ініцыятыва гімназіі:

– Ёсць распрацаваная інструкцыя аб прапускным рэжыме ва установы адукацыі. Бацькі папярэджаныя пра гэта.

Ала Іванаўна кажа, што бацькі спакойна ставяцца да такога патрабавання. Яны ўсе папярэджаныя, што пры ўваходзе ў школу ў іх патрабуць дакумент.

– Я лічу, што наогул неабавязкова бацькам заходзіць у школу. Дастаткова давесці дзіця да ўваходу, пацалаваць яго і перадаць у рукі настаўнікам. У школе дзіця будзе ў бяспецы.

Намеснік начальніка аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Соф'я Філістовіч** пацвердзіла, што цяпер пашпарт у бацькоў будуць патрабаваць ва ўсіх школах і дзіцячых садках горада і раёна.

– Прапускны рэжым дзейнічае ў школах даўно, але цяпер з-за падзей, якія адбываюцца ў свеце, гэтыя меры прыйшлося рабіць больш жорсткімі.

Соф'я Пятроўна патлумачыла, што і аддзел адукацыі, і кожная навучальная ўстанова адказваюць за бяспеку дзяцей.

– Бацькі прывялі ў школу здаровых дзяцей, і забраць яны павінны іх таксама жывымі і здаровымі. І ўвесь дзень адчуваць, што з іх дзіцем нічога не здарыцца. Таму калі і чуем нейкія словы ад бацькоў, то гэта словы падзякі.

**Наталля ТУР.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Замяняюць смеццевыя кантэйнеры

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра тое, што супрацоўнікі маладзечанскага "Камунальніка" ўжо пачалі замену кантэйнераў у Маладзечне, распавяла начальніца вытворча-тэхнічнага аддзела Таццяна Паляковіч.**

Замены праводзяць у 6-м мікрараёне, у мікрараёне "Усходні". У далейшых планах замяніць кантэйнеры па ўсім горадзе, але пакуль што фінансаванне ёсць на замену 200. Каля 50 ужо замянілі.

Як патлумачыла Таццяна Паляковіч, новыя еўракантэйнеры вялікага аб'ёму, ацынкаваныя, закрытыя і прызначаныя для асобнага збору смецця.

Калі кантэйнер для збору пластыка, то адтуліна ў ім зробленая так, каб немагчыма было прасунуць цэлы пакет са смеццем. Тое самае і з кантэйнерам для збору шкла.

Акрамя гэтага, новыя кантэйнеры мабільныя, іх лёгка перасоўваць.

– Гэтая замена палепшыць эстэтычны від горада. Маем спадзяванні, што гэта таксама абудзіць у людзях культуру размежавання смецця, – дадала Таццяна Паляковіч.

**Настасся РОЎДА.**

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ



## Ці адрамантуюць лазню на Лазневым завулку

МАЛАДЗЕЧНА

**У рэдакцыю звярнулася маладзечанка Валянціна Войніч.**

Жанчыну цікавіць пытанне рамонту лазні, што месціцца на завулку Лазневым, 1. Цяпер яна не працуе, і жыхары бліжэйшых вуліц, якія раней ёй карысталіся, вымушаныя ездзіць у іншыя лазні горада.

– Я разумею, што лазня старая і патрабуе рамонту, – кажа спадарыня Валянціна. – І нас, жыхароў гэтага раёна горада, у першую чаргу турбуе, ці адрамантуюць яе? Праз год, праз два, але адрамантуюць, а не закрыюць. Мы хочам ведаць, што лазня ў нас будзе. Гэта не самы ажыўлены раён горада, аўтобусы ходзяць не часта, таму ездзіць у іншыя досыць праблематычна і займае шмат часу. Тым больш гэта пытанне актуальнае для пенсіянераў.

Як распавяла начальніца вытворча-тэхнічнага аддзела "Камунальніка" **Таццяна Паляковіч**, праект па рэканструкцыі лазні ўжо распрацоўваецца.

– Маем спадзяванні, што ў першым квартале 2016 года ён будзе гатовы, – адзначыла яна.

Будаўнічыя работы пачнуцца пасля выдаткавання фінансавання. У планах рамонт ёсць.

**Настасся РОЎДА.**

● ПОПЫТ

# Колькі каштуе адчуванне Новага года: ёлкі, убранне, падарункі

МАЛАДЗЕЧНА

**У горадзе ўжо пачаўся навагодні настрой: у магазінах, на рынку з'яўляюцца штучныя ёлкі, цацкі, сувеніры і, вядома, салодкія навагоднія падарункі.**


Фота: astro7.ru.

Маленькая альбо вялізная ёлка ў вас будзе – не мае розніцы, галоўнае, каб было адчуванне свята.

На рынку райспажыўтаварыства ў продажы ёсць як штучныя ёлкі, так і сосны. Цэны на самыя маленькія ёлкі – ад 50 тысяч рублёў, вялікія каштуюць каля мільёна. Самыя дарагія з ёлак – белыя і ёлкі-люкс. На апошніх ёсць шышкі і іх галінкі пасярэбраныя альбо пазалочаныя.

Аднак многія пакупнікі ўсё ж такі аддаюць перавагу натуральным дрэўцам. Але, каб купіць такое, трэба крышачку пачакаць. Летась іх пачалі высякаць ад 12 снежня. Ад 18 снежня яны з'явіліся на кірмашах.

Летась ёлкі ў рэгіёне да метра каштавалі ад 40 да 78 тысяч рублёў. Да двух метраў – ад 50 да 90 тысяч рублёў. Да трох метраў – ад 65 да 120 тысяч рублёў.

Тыя, хто ўсё ж такі вырашыў паставіць штучную ёлку, аднак хоча адчуць пах натуральнай, могуць паставіць навагодні букет. Летась яны былі недарагія – ад 15 да 30 тысяч рублёў.

Цэны на мішуру пачынаюцца ад 15 да 30 тысяч рублёў. У залежнасці ад таго, якой яна пышнасці.

Агеньчыкі на ёлку каштуюць ад 22 да 270 тысяч рублёў. Цэны залежаць ад памеру: чым даўжэйшая гірлянда, тым даражэйшая.

Цацкі – ад 15 да 60 тысяч рублёў. Цана залежыць ад колькасці іх у каробцы. Папулярнасць набываюць цацкі з тканіны.

Цана салодкіх навагодніх падарункаў залежыць ад вагі і афармлення. Падарункі ў кардоннай каробцы каштуюць ад 45 900 рублёў (300 г) да 153 400 рублёў (1 кг). Самі каробкі рознай формы: і ў форме домікаў, і сняжынак, і навагодніх ёлачак. Малюнкі на іх самыя разнастайныя, на навагоднюю тэматыку. У большасці навагодніх падарункаў ёсць сюрпрыз.

Падарункі ў форме Дзеда Мароза, Снягуркі, а таксама сімвала надыходзячага года Малпы – адны з самых дарагіх. Яны каштуюць ад 279 тысяч рублёў за 700 грамаў да 329 тысяч рублёў за кілаграм.

**Цэны на ёлкі і сосны на рынку райспажыўтаварыства**

| Від дрэва | Вышыня, (метраў) | Цана (тысяч рублёў) |
|---|---|---|
| Ёлка белая | 2,3 | 800 |
| Ёлка-люкс | | 900 |
| Ёлка | | 550 |
| Ёлка белая | 1,9 | 700 |
| Ёлка-люкс | | 450 |
| Ёлка | | 350 |
| Ёлка белая | 1,6 | 600 |
| Ёлка-люкс | | 350 |
| Ёлка | | 250 |
| Ёлка-люкс | 1,3 | 450 |
| Ёлка | 1,3 | 170-200 |
| Сасна | 1 | 150 |
| Сасна | 1,3 | 330 |
| Сасна | 1,9 | 550 |

**Галіна СІНІЦА, Наталля ТУР.**

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

## Ва ўсіх правераных гандлёвых аб'ектах знайшлі хібы

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

У верасні-лістападзе Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў пазапланавыя маніторынгі ў сямі гандлёвых аб'ектах Вілейкі і 14-і – у Маладзечне. Ва ўсіх правераных аб'ектах знайшлі парушэнні санітарных нормаў і правілаў, у продажы асобных відаў тавараў, грамадскім харчаванні.

Без дакументаў, што пацвярджаюць якасць і бяспеку тавараў, і без таварасуправаджальных прадавалі садавіну і гародніну на 15 аб'ектах.

У сямі месцах не было інфармацыі аб юрыдычнай асобе, прадпрымальніку і іншай, абавязковай па заканадаўстве. У васьмі аб'ектах не вытрымалі асартымент прадукцыі.

Былі парушэнні ўмоў захоўвання прадуктаў, выпадкі продажу недабраякаснай прадукцыі, без абавязковай інфармацыі аб тавары, без дазволу лабараторыі ветэрынарна-санітарнай экспертызы.

**Паводле паведамлення Камітэта дзяржкантролю.**





Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**1,4** мільёна салодкіх навагодніх падарункаў выпусціла адна з кандытарскіх фабрык

Паводле upack.by.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.11 | 26.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 17 915,00 | 18 127,00 |
| Еўра | 19 084,00 | 19 328,00 |
| Злоты | 4 495,18 | 276,96 |
| Расійскі рубель | 276,20 | 274,94 |
| Грыўня | 748,79 | 753,71 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | **25.11** |
| Еўра | 18950/19150 | 19150/19400 |
| Долар ЗША | 17830/18000 | 18000/18250 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 18.11 | 25.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | 144 500 |
| Сасіскі, 1 кг | 54 500 | 54 500 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29 400 | 29 400 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 75 000 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 40 000 | 39 800 |
| Селядзец, 1 кг | 54 000 | 54 000 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 118 000 |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | 14 000 |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | 17 000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | 13 000 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 23 500 |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | 5 700 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | 14 500 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 43 500 | 43 500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | 13 000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 000 | 6 900 |
| Часнок, 1 кг | 46 000 | 47 900 |
| Капуста, 1 кг | 3 800 | 3 800 |
| Морква, 1 кг | 4 800 | 4 900 |
| Баклажаны, 1 кг | 42 000 | 29 500 |
| Лімоны, 1 кг | 28 000 | 34 500 |
| Апельсіны, 1 кг | 30 000 | 29 500 |
| Мандарыны, 1 кг | 25 000 | 23 500 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 000 | 29 900 |
| Ківі, 1 кг | 38 000 | 24 900 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 4 900 |
| Памідоры, 1 кг | 12 000 | 17 900 |
| Агуркі, 1 кг | 25 000 | 32 500 |
| Перац, 1 кг | 29 900 | 39 900 |
| Вінаград, 1 кг | 24 500 | 26 500 |
| Бананы, 1 кг | 16 500 | 19 500 |
| Хурма, 1 кг | 25 000 | 29 900 |
| Шампіньёны св., 1 кг | 50 000 | 47 900 |
| Яблыкі, 1 кг | 12 000 | 12 900 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 500 | 24 900 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 18 000 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 100 000 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 55 000 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 3 000 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 100 000 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | 25 000 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 60 000 |

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Пачынаюцца акцыі прафілактыкі "Жыццё даражэйшае за гуму!"

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 24 лістапада да 4 снежня пройдзе рэспубліканская прафілактычная акцыя "Жыццё даражэйшае за гуму!".**

А 27 лістапада ў Маладзечне пройдзе адзіны Дзень бяспечнага дарожнага руху пад аналагічным дэвізам.

Падчас іх супрацоўнікі ДАІ растлумачаць уладальнікам транспартных сродкаў пра правілы бяспечнай язды зімой, неабходнасць змены гумы.

Ад 16 студзеня 2015 года ўступілі ў законную сілу змяненні і дапаўненні ў загад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб мерах па павышэнні бяспечнасці дарожнага руху".

Паводле змяненняў, ад 1 снежня і да 1 сакавіка на машынах з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 3,5 тоны уключна, легкавых і грузапасажырскіх аўтамабілях з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай звыш за 3,5 тоны, а таксама аўтобусах з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 5 тон павінна стаяць зімовая гума.

Яна павінна адпавядаць пэўным патрабаванням:

1. На легкавых аўтамабілях гума павінна мець астатковую вышыню рысунка пратэктара менш за 1,6 міліметра, грузавых аўтамабіляў – 1 міліметр, матацыклаў і мапедаў – 0,8 міліметра.

2. На зімовай гуме павінна стаяць маркіроўка ў выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі і са сняжынкай ўнутры яе альбо знакамі "M+S", "M&S", "M.S", "M S" альбо "All seasons". Астатковая вышыня рысунка пратэктара падчас эксплуатацыі павінна быць меншай за чатыры міліметры.

3. Для прычэпаў устаноўленыя нормы астатковай вышыні рысунка пратэктара гумы, такія як для машын, з якімі яны счэпленыя.

4. Гуму лічаць непрыдатнай, калі на ёй з'явіўся індыкатар зносу альбо два індыкатары ў кожным з двух сячэнняў – пры нераўнамерным зносе бегавой дарожкі.

Паводле начальніка аддзела ДАІ Дзмітрыя ЮРКЕВІЧА.

## Паварочваў налева і не саступіў дарогу спадарожнаму транспарту

МАЛАДЗЕЧНА

21 лістапада каля васьмі раніцы па Віленскай адбылася аварыя.

28-гадовы кіроўца "Пежо-406" ехаў па Віленскай у накірунку Вальныца. На зялёны сігнал святлафора на перакрыжаванні ён паварочваў налева, але не саступіў дарогу сустрэчнаму аўто "Аўдзі Q7". Тым самым стварыў аварыйную абстаноўку.

Каб пазбегнуць ДТЗ, 30-гадовы кіроўца "Аўдзі" стаў экстранна тармазіць, змяніў кірунак руху машыны. У аварыі ніхто не пацярпеў.

На кіроўцу "Пежо-406" склалі пратакол аб адміністрацыйнай адказнасці. Яму пагражае штраф ад двух да пяці базавых велічынь (ад 360 да 900 тысяч рублёў) з пазбаўленнем права кіравання машынай на два гады альбо без пазбаўлення.

Пра здарэнне паведаміў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

Галіна СІНІЦА.

## Каб не наехаць на сабаку, кіроўца збіў асвятляльную мачту і дрэва

АШМЯНЫ

Машына "Форд", на якой рухаўся непрышпілены кіроўца, была на летніх колах.

Аварыя адбылася 23 лістапада паблізу вёскі Навасёлкі.

Машына знесла дарожны знак, урэзалася ў металічную стойку аўтобуснага прыпынку, праламала яго цаглявую сцяну і спынілася ў правым кювеце. Кіроўца, якога выкінула з салона, ад атрыманых траўмаў памёр па дарозе ў бальніцу.

Паводле gaigrodno.by



Фота yeah.africa.com

Валожынец вырашыў не разменьвацца на дробных рыбак і зліў возера з буйной рыбай.

КРЫМІНАЛ

# Прадпрымальны рыбак зліў ваду з возера

ВАЛОЖЫН

**Але рыбу назбіраць усё роўна не ўдалося.**

Пра здарэнне распавяла старшая следчая Валожынскага райаддзела Следчага камітэта **Аксана Гульба**.

Валожынскі райвыканкам даў у арэнду аднаму з калгасаў возера, каб вырошчвалі ў ім рыбу на продаж.

Гэтае возера злучанае каналам з іншым возерам. Яны аддзеленыя дамбамі, і рыба з аднаго возера не трапляе ў другое.

Увечары 4 лістапада рыбак з Валожыншчыны прыйшоў на возера і стаў вудзіць рыбу на спінінг. Справа ішла павольна, і ён вырашыў дзейнічаць па-іншаму. Адкрыў гаечным ключом шлюз і стаў чакаць, пакуль вада з возера з рыбай, якую вырошчваюць на продаж, перацячэ ў другое возера.

Праз дзве гадзіны ўжо можна было проста хадзіць і збіраць рыбу ў мяхі, што і зрабіў рыбак. Аднак калі ўбачыў фары машыны, што праязджала міма, то вырашыў збегчы. Спачатку схаваўся ў кустах, а потым пабег дамоў.

Як аказалася, гэта была машына міліцыі. Супрацоўнікі якраз ехалі на гэтыя азёры. Ім пазванілі занепакоеныя мясцовыя жыхары, якія заўважылі, што ў адным возеры раптам стала хутка паднімацца вада.

Рыбака затрымалі. Яму пагражае да трох гадоў турмы.

20 лістапада справу накіравалі ў суд.

Старшая следчая Аксана Гульба заўважае, што калгас, які арандаваў возера, не паклапаціўся ні пра асвятленне тэрыторыі, ні пра тое, каб наняць ахоўніка, ні пра папераджальную таблічку, што ў возеры вудзіць нельга.

Калгасу ўказалі на гэтыя рэчы і раілі іх выправіць.

Настасся РОЎДА.

ЗДАРЭННІ

## Каб спыніць угоншчыка, міліцыі давялося страляць па колах

СМАРГОНЬ

Затрыманы 57-гадовы ўгоншчык толькі-толькі выйшаў на волю з папраўчай калоніі, дзе адбываў пакаранне за разбой.

20 лістапада ў вёсцы Асінаўка на Смаргоншчыне ён угнаў "Пежо", паведамляе Дзяржаўтаінспекцыя Гродна і Гродзенскай вобласці.

Гаспадар пакінуў аўтамабіль на абочыне каля дома незамкнёным і з ключом запальвання на пяць хвілін. Калі вярнуўся, машыны ўжо не было.

У трох раёнах увялі план "Перахоп". Патрабаванне спыніцца нарада ДАІ Ашмянскага РАУС угоншчык праігнараваў. Ён імчаўся на вялікай хуткасці і стварэў рэальную пагрозу для навакольных.

Інспектар быў вымушаны прымяніць табельную зброю. Пасля папераджальных стрэлаў у паветра ён зрабіў прыцэльныя стрэлы ў колы.

Каля вёскі Віштокі ўгоншчыка затрымалі.

Аддзел інфармацыі.

## Праз падазроны прадмет выклікалі сапёраў

МАЛАДЗЕЧНА

У пятніцу, 20 лістапада, на некаторы час аказаўся ачэплены магазін, што па вуліцы Вольнай.

Чытач "Рэгіянальнай газеты" расказаў, што каля 22:00 ён праязджаў каля гэтага магазіна. Аказалася, што праезд і праход паблізу яго былі забароненыя. Каля зачыненага на той момант магазіна стаяла некалькі машын ДАІ і міліцыі. Працавала група размініравання.

Прычыну гэтага патлумачыў намеснік начальніка Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце **Уладзімір Васількоў**:

– Аказалася, што пакупнік магазіна забыўся там сваю рабочую сумку. Прадавачкам падалося, што яна падазроная, яны выклікалі міліцыю.

Наталля ТУР.

АДНОСІНЫ

# Ці можа быць сяброўства паміж мужчынам і жанчынай

МАЛАДЗЕЧНА

**Высвятляем разам з псіхолагамі прыроду стасункаў паміж мужчынам і жанчынай. Як сябруюць у два гады, а як – у 17? Хто ўплывае на тое, будзе ці не хлопец сябраваць з дзяўчынай і наадварот?**




Фота rus-list.ru

Псіхолаг Таццяна Жданава лічыць, што ў сяброўства ёсць мяжа.

Оскард Уайльд калісьці пісаў: "Сяброўства паміж мужчынам і жанчынай – рэч немагчымая; паміж імі можа быць запал, варожасць, абажанне, каханне, але толькі не сяброўства". Ці праўда гэта? Пытанне казытлівае.

Адносіны паміж хлопчыкам і дзяўчынкай пачынаюць складацца яшчэ ў дзяцінстве. Пра асаблівасці гэтага перыяду распавядае псіхолаг дзіцячага цэнтра развіцця дзіцяці дашкольнага ўзросту №19 у Маладзечне **Людміла Турло**.

– Сімпатыі ў дашкольным узросце вельмі пераменлівыя, – кажа псіхолаг. – І яшчэ доўга будуць заставацца такімі. Асабліва гэта тычыцца тых дзяцей, якія наведваюць дзіцячы садок і кантактуюць з вялікай колькасцю аднагодкаў. У дашкольным узросце ў дзяцей яшчэ няма падзелу на два "лагеры" – хлопчыкаў і дзяўчынак. Але бліжэй да шасці гадоў варта прыглядзецца, з кім часцей гуляе дзіця.

Юная лэдзі можа выдатна сябе адчуваць як у кампаніі дзяўчынак, так і хлопчыкаў. Многія жанчыны ўзгадваюць, што з хлопцамі ім у дзяцінстве было цікавей.

**А вось калі хлопчык гуляе выключна з дзяўчынкамі, гэта павінна насцярожыць.**

Маленькаму мужчыну неабходна заваяваць аўтарытэт у вачах аднагодкаў свайго полу, інакш ён будзе адчуваць сябе не такім, як усе.

**– Вы праводзілі адмысловыя тэсты?**

– Праводзілі, і я магу агучыць вынікі. У два гады дзеці робяць першыя крокі да сяброўства. Яны пачынаюць абіраць сумесныя гульні. У тры гады сяброўства пераходзіць на новы этап. Дзеці могуць дзяліцца рэчамі, спрабаваць дапамагчы іншым. Аднак у гэты перыяд дзеці толькі вучацца сябраваць, а значыць, магчымыя і канфлікты, і непаразуменні.

У чатыры гады дзеці не асабліва клапоцяцца пра сяброўскія адносіны і лічаць сябрам таго, з кім гуляюць.

У шэсць-сем – абіраюць сяброў па інтарэсах. Сябруюць з тым, з кім весела і цікава, з тым, хто ўмее дзяліцца. Паміж дзяўчынкамі ў гэты перыяд сяброўства больш цеснае, чым паміж хлопчыкамі. Дзяўчынкі і хлопчыкі ў гэтым узросце звычайна сябруюць паасобку.

### Як развіваецца сяброўства ў падлеткавым узросце

Псіхолаг СШ №2 Маладзечна **Іна Карпец** звяртае ўвагу, што важным фактарам з'яўляецца падсвядомасць. Дзяўчынкі з малых гадоў імкнуцца быць прыгожымі, а хлопчыкі – мужнымі. Вельмі важна, з кім і як дзіця бавіць час у дзяцінстве, што бачыць, якія мульцікі і праграмы глядзіць. Гэтыя знешнія фактары, безумоўна, уплываюць. Таму ў сілах бацькоў стаць асноўным прыкладам і паўплываць на выхаванне дзіцяці.

– Многія псіхолагі сцвярджаюць, што сябраваць з супрацьлеглым полам значна лягчэй і прасцей, – працягвае Іна Карпец. – Гэта можа быць больш цікава і карысна, таму што сябры аднаго ўзросту, але рознага полу могуць больш шчыра расказаць пра сябе, пра свае інтарэсы. Паміж імі не будзе канкурэнцыі, ім прасцей знайсці паразуменне.

У школьным узросце ідзе асэнсаванне сяброўства з супрацьлеглым полам. У гэты час фарміруецца асоба, вызначаецца кола людзей, з якімі падлетак сябруе, да якіх прывязваецца. Важна, каб бацькі падтрымлівалі, назіралі за сваім дзіцем у школьным узросце. У старэйшых класах падлетак пачынае асэнсоўваць паняцці "каханне" і "сяброўства".

Як падагульняе псіхолаг СШ №2, шмат у паняццях пра сяброўства і каханне залежыць ад таго, як да гэтага ставіцца ў сям'і. У кагосьці ў сям'і не лічаць неабходным сябраваць з супрацьлеглым полам, а ў кагосьці, наадварот, гэта вітаецца.

### "У сяброўства ёсць мяжа"

Як далей развіваюцца адносіны паміж хлопцам і дзяўчынай, у больш старэйшым узросце, расказвае псіхолаг маладзечанскіх электрасетак **Таццяна Жданава**.

– Няма нічога вечнага, канец або мяжа ёсць ва ўсім, у тым ліку і ў сяброўства. У адносінах хлопца і дзяўчыны таксама. Хтосьці можа захацець фізічнай блізкасці, а іншы – не зразумець гэтага, – кажа спецыяліст.

Псіхолаг тлумачыць, што сяброўства грунтуецца на агульных інтарэсах, падабенстве ў характарах, падобных поглядах на свет і не толькі. Гэта блізкасць па духу, якая можа перарасці ў фізічнае прыцягненне. Але ў той жа час Таццяна Жданава заўважае, што ўсё індывідуальна.

### Меркаванні маладзечанцаў

**Павел Святоха, акцёр Мінскага абласнога драмтэатра:**

– Сяброўства ў мужчыны з жанчынай не атрымаецца. Часцей за ўсё ў некага рана ці позна з'явіцца штосьці большае, чым сяброўскія сімпатыі. Спачатку стасункі паміж хлопцам і дзяўчынай трымаюцца на паразуменні і падтрымцы, агульных інтарэсах, супадзеннях у біяграфіі.

Але потым захочацца стаць да свайго "сябра" бліжэй, таму што гэты чалавек табе вельмі прыемны і ты бачыш яго ў якасці свайго спадарожніка. Калі пачуццё ўзаемнае, людзі ўступаюць у сур'ёзныя адносіны, напоўненыя пяшчотай і павагай адно да аднаго.

Калі справа не даходзіць да адносін, партнёр не мае да вас тых жа пачуццяў, лепш перасіліць сябе і пакінуць усё, як ёсць. Паважаць, шанаваць адзін аднаго, дапамагаць у цяжкую хвіліну і радавацца поспехам свайго сябра. Я сябраваў з адной выдатнай дзяўчынай. Першы час. Але ў пэўны момант зразумеў, што хачу яе бачыць сваёй каханай. Яна адказала на маю сімпатыю, мы сустракаліся чатыры гады і нядаўна разышліся. Але паважаць яе і жадаць ёй шчасця я не перастаў.

**Аляксей Шарамет, дырэктар маладзечанскай сярэдняй школы №8:**

– Сяброўства безумоўна ёсць! Чаму не? У мяне ў самога была лепшая сяброўка, з якой мы доўгі час сябравалі. Але хачу заўважыць і акцэнтаваць вашу ўвагу на тым, што не толькі зносіны, але і сяброўства грунтуецца на сімпатыі, узаемаразуменні і павазе. З гэтага робім выснову, што сімпатыя можа перарасці ў нешта большае. Але не варта прыклад некалькіх чалавек разглядаць як аксіёму.

**Багдан РАМАНОЎСКІ,**
**вучань 10 класа**
**СШ №2 у Маладзечне.**

ВЫСТАВЫ

## Стартаваў праект "Майстры мастацтваў культурнай сталіцы"

МАЛАДЗЕЧНА

Урачыстае адкрыццё выставы "Праваслаўныя цэрквы і капліцы Эстоніі" адбылося ў Палацы культуры 20 лістапада.

У экспазіцыі прадстаўлі больш за 100 фотаздымкаў праваслаўных храмаў і капліц, пабудаваных з канца 17 стагоддзя. Дадзеная выстава – вынік шматгадовай працы, праведзенай эстонскім фатографам архітэктуры **Аарне Маасікам**, рэлігіязнаўцам доктарам навук **Янусам Плаатам** і гісторыкам мастацтва **Аляксандрам Панцялеевым**.

Адкрыццё выставы стала магчымым дзякуючы супрацоўніцтву Палаца культуры горада Маладзечна, Беларускай праваслаўнай царквы і пасольства Эстоніі ў Мінску. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Эстонскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь **Майт Марцінсан** не хаваў свайго захаплення ад таго, што выстава арганізаваная ў культурнай сталіцы Беларусі, у мясцінах, дзе жыў і тварыў Міхал Клеафас Агінскі.

– Рэлігія заўсёды была душой любой дзяржавы. І калі адняць душу ў чалавека, ён памірае. Таксама калі адняць душу ў дзяржавы, яна паволі гіне, – звярнуўся ён да прысутных. – Любы храм – гэта кавалачак неба на зямлі, месца, дзе чалавек знаходзіць для сябе суцяшэнне, не проста для цела, а для свайго сэрца, для свайго розуму, для сваёй душы. І я ўдзячны эстонцам за тое, што большасць іх храмаў у такім добрым стане. Дзякуй за тое, што вы свята ахоўваеце сваю рэлігію, свае храмы, сваё мінулае, таму што ў людзей без мінулага не будзе будучыні.

Дырэктар Палаца культуры **Святлана Сарока** адзначыла, што менавіта з гэтага мерапрыемства пачынаецца вялікі праект "Майстры мастацтваў культурнай сталіцы". У яго рамках у Маладзечне пройдзе мноства канцэртаў, выстаў, сустрэч з цікавымі і знакамітымі людзьмі іншых краін. Таксама ўзнікла ідэя ў далейшым падрыхтаваць экспазіцыю "Святыні і храмы Беларусі".

Выстава праходзіць да 27 лістапада. Усе ахвотныя могуць пазнаёміцца з асаблівасцямі дойлідства Эстоніі як з унікальнай культурнай з'явай, якая сфармавалася і цяпер развіваецца ва ўзаемадзеянні з рознымі культурамі.

**Алеся КАРАЛЕВІЧ,**
**школа журналістыкі**
**"Маладзік".**

ВЫСТАВЫ

# Чаму мужчыны пачалі галіцца? Адказ шукалі на выставе небяспечных брытваў

ВІЛЕЙКА

**Ад 18 да 25 лістапада ў Вілейскім краязнаўчым музеі праходзіла выстава "Ксірафілія" ў рамках праекта "Тыдзень калекцыянера".**

Ксірафілія – від калекцыяніравання небяспечных брытваў, упакавак ад брытвенных лёзаў. Рэдкае і спецыфічнае захапленне. Але калі існуюць прадметы, знойдуцца і людзі, якія будуць гэтыя прадметы збіраць. Сустрэць хоць аднаго ксірафіліста дастаткова цяжка. Нам пашанцавала. У рамках "Тыдня калекцыянера" віляйчане знаёміліся з небяспечнымі брытвамі перыяду 30-70-х гадоў.

На выставе "Ксірафілія" паказалі брытвы з прыватнай калекцыі **Баляслава Тонкавіча**. Яны ахопліваюць перыяд 30-40-х гадоў і прадстаўленыя такімі маркамі, як "PUMA", "ZOLINGER" "SWEDEM" і іншыя. 50-70-я гады прадстаўленыя брытвамі савецкай вытворчасці.

Гісторыя брытвы непарыўна звязаная з гісторыяй галення. Яна такая ж старая, як і чалавецтва: каля 20 000 гадоў таму наша продкі пачалі галіць твар. Чаму – невядома.

**Магчыма, дамы каменнага веку вырашылі, што паголены мужчына выглядае значна лепш.**

Спачатку, на працягу тысячагоддзяў, валасы вырывалі, а гэта было вельмі балюча. Пасля перайшлі да саскрэбвання валасоў пры дапамозе камянёў ці ракавінак з вострымі краямі.

У жалезным веку не толькі абвастрыліся сацыяльная адносіны, але, як паказваюць археалагічныя раскопкі, удасканальваліся прылады працы і, разам з імі, прыстасаванні для галення. Тады ўпершыню з'явіліся вострыя металічныя прадметы. Аднак галенне па-ранейшаму заставалася дастаткова складанай справай, а брытвенныя прыборы патрабавалі ўдасканальвання.

### Пачатак брытвеннага прагрэсу

У 1100 годзе да Раства Хрыстова ў Еўропе ўжо карысталіся папярэднікамі сучасных брытваў – брытвамі з адным лязом і ручкай. Прыкладна ў 330 годзе да Раства Хрыстова, у час праўлення Аляксандра Вялікага, грэкі і рымляне пераналі егіпецкі метад галення пры дапамозе бронзавых скрабкоў. Воіны пачалі брыць не толькі бароды, але і валасы на галаве, каб ворагі не маглі за іх схапіць. З тых часоў няголеныя дзікія народы сталі называцца "варварамі", на лаціне слова "varda" – барада. Нямецкі дзеяслоў "галіцца" таксама мае лацінскія карані. Ён паходзіць ад дзеяслова, які азначае драпаць або скабліць.

На працягу апошніх стагоддзяў форма і матэрыял брытвы перацярпелі змены, аднак у цэлым нічога не змянілася, хаця некаторыя людзі адчувалі складанасці пры карыстанні. Маракі першымі адчулі, што ў моры дастаткова цяжка карыстацца брытвай, бо лёгка параніць твар. Яны перасталі гэта рабіць і пачалі брыцца ў цырульнях. Ужо старажытныя грэкі адкрывалі салоны для галення, якія з цягам часу ператварыліся ва ўстановы, якія мелі сацыяльнае значэнне.

Пачынаючы з 18 стагоддзя цэнтрам прамысловай вытворчасці небяспечных брытваў становіцца англійскі горад Шэфілд. Пазней з'яўляецца другі цэнтр вытворчасці брытвы – нямецкі горад Золінген.

Колькасць існуючых у той час марак і вытворцаў была вялікая. Сёння дастаткова цяжка аднавіць гісторыю іх развіцця. Сотні дробных і буйных прадпрыемстваў прадстаўлялі на сусветным рынку вялікую колькасць брытваў. Брытвы з Золінгена распаўсюдзіліся дзякуючы сваёй паглыбленай заточцы. Пры галенні яны шамацелі, ад гэтага атрымалі другую назву "спяваючыя брытвы".

У 1895 годзе амерыканскі вынаходнік-аматар Кен Джылет ажыццявіў сваю ідэю – утрымліваць лязо з абодвух бакоў у ручцы-трымальніку. Сваё вынаходніцтва ён назваў бяспечнай брытвай. І праўда, галіцца стала зручна і бяспечна.

Нарадзілася недаўгавечнае лязо, якое рэвалюцыйна змяніла побыт мужчынскай часткі насельніцтва. Хаця першыя брытвы "Gillette" з'явіліся на рынку толькі ў 1903 годзе, гісторыя яе пачалася ўжо ў 1904 годзе, калі было рэалізавана 12,4 мільёна брытваў.

**Надзея АЎДЗЕЙ,**
**навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

Сярод прадстаўнікоў рэдакцыі на занятках быў і тэхнічны рэдактар Ігар Мароз.

ІМПРЭЗЫ

# "РГ" стала госцем курсаў "Мова нанова"

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскія вядоўцы курсаў беларускай мовы "Мова нанова прысвяцілі заняткі ў аўторак, 24 лістапада, тэме "Рэгіянальная газета", якая якраз стала "Найлепшай рэгіянальнай газетай 2015 года".**

Вядоўцы курсаў і адначасова карэспандэнткі "РГ" **Наталля Тур** і **Настасся Роўда** спачатку правялі адукацыйную частку па тэме "Прыказкі і прымаўкі".

У другой частцы заняткаў выступіў галоўны рэдактар "РГ" **Аляксандр Манцэвіч**, які распавёў, чаму газета мае менавіта такую назву, адкуль узнікла ідэя стварэння менавіта такога выдання – аб'яднаць у адну інфармацыйную прастору суседнія раёны, падзеленыя абласцямі.

Разам з іншымі работнікамі прыгадаў смешныя і кур'ёзныя выпадкі з жыцця рэдакцыі.

Наступныя заняткі курсаў будуць прысвечаныя Марку Шагалу. Іх правядуць вядоўцы віцебскіх курсаў. Для слухачоў выступіць гурт "Navi".

Заняткі курсаў "Мова нанова" ў Маладзечне праходзяць па аўторках у бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок", Пачатак а 18 гадзіне.

У нашым рэгіёне курсы праводзяць і ў Астраўцы. Заняткі адбываюцца па серадах а 18 гадзіне ў актавай зале музычнай школы па вуліцы Кастрычніцкай, 13.

**Аддзел інфармацыі.**

## Эсэ слухачоў курсаў "Мова нанова" ў Маладзечне на тэму "Маладзечна, якое мы страцілі"

**У адным з заданняў на занятках курсаў "Мова Нанова" слухачам прапанавалі напісаць эсэ на тэму "Маладзечна, якое мы страцілі". Лепшыя работы мы публікуем у газеце.**

### Эсэ Галіны Дрокінай

Я вельмі сумую па тым, што не пабачыла ў нашым горадзе касцёл св. Казіміра на Замкавай вуліцы, уніяцкай царквы на плошчы Старое Места, Трыумфальную арку па вуліцы Машэрава, сінагогу. Усё тое, што гаварыла б аб нашай гісторыі, рознай, але нашай.

Як бы мне хацелася сёння пагутарыць і шмат парасспытваць у Генадзя Каханоўскага, Вячаслава Ляшковіча, Міколы Ермаловіча – колькі ўсяго яны не маглі сказаць у свой час.

А яшчэ, нягледзячы на сучасны, такі прывабны і кідкі выгляд новага Маладзечна, я вельмі шкадую, што мала засталося мястэчковага, тутэйшага...

### Эсэ Жанны Дудчанкі

Крама майго дзяцінства

Дзіўна, але двойчы за апошнія некальк дзён пры мне ўзгадвалі прымаўку "Еш сала, каб душа скакала". І я адразу ўявіла невялікую краму, якую ў народзе называлі "Пятнаццатая". Месцілася яна ў зручным месцы, непадалёк ад чыгуначнага вакзала. Таму і ў выхадныя, і нават у будні ў ёй было шматлюдна.

А для нашай сям'і гэта была амаль адзіная бліжэйшая да дому крама, знаёмая з самага дзяцінства: сокі ў конусападобных ёмістасцях, салодкія цукеркі і торты, смачныя пельмені "Сібірскія", хлеб па 16 капеек, батон па 22, малако ў шкляной бутэльцы па 15. Цяпер на гэтым месцы прыгожы сучасны жылы дом, а крама, на жаль, не працуе.

### Эсэ Таццяны Закрэўскай

Для мяне гэта помнік "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі". Я памятаю, як урачыста яго адкрывалі з надзеяй, што некалі замест гэтага валуна паўстане нешта годнае. Святары асвяцілі помнік. Па святах сюды прыносілі кветкі. Маладыя таксама не забываліся падысці да яго і ўскласці кветкі. Потым яго перанеслі на скрыжаванне Вялікага Гасцінца і вуліцы Машэрава. Потым, як спецыяльна, схавалі ў парк, далей ад людскіх вачэй.

**Алеся Клімовіч** вусна распавяла, як шкадуе, што ў адрамантаваным аўтавакзале не засталося цудоўных вітражоў на беларускую тэматыку. Гэтыя працы, якімі маглі любавацца будучыя пакаленні маладзечанцаў, зніклі з публічнай прасторы.

• **ЭЛЕКТРАМАНТАЖ.** ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

• Усё для даху: металачарапіца, прафнасціл, андулін, гнуткая чарапіца, фальцавая чарапіца, керамапласт, металаштакетнік. Поўная камплектацыя, замер, дастаўка, гарантыя. ПП "Алекс-Дом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• Трактар МТЗ-82 УК, прычэп, капалка, плуг, культыватар і іншыя прычапныя. ВАЗ-21213, 1999 года выпуску, 1,7 карбюратар, 5 КПП. Т. МТС 8540568.

• Трактар Т-16, 24 300 000 руб. Т. (8-029) 7763394.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ - ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

**Мэбля**

• Табурэты новыя, 4 шт., 400 000. Т. (8-025) 9663109.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараны, авечкі. Т. (8-029) 6578681.*

• Кабан свойскі ў Маладзечанскім раёне. Т. (8-0176) 723749, (8-029) 9790704.*

• Козачка бязрогая, 10 месяцаў, пакрытая. Маладзечанскі раён. Т. (8-029) 7006777.

• Парасяты в'етнамскай пароды, прышчэпленыя. Маладзечна. Т. (8-029) 8559757.

• Парасяты в'етнамскай пароды. Маладзечанскі раён. Т. (8-033) 3227238.

• Шчаняты ёрка, 2 месяцы, серабрыстыя, прышчэпленыя, з пашпартам. Т. (8-044) 7633488.*

• Шчаняты мопса з радаслоўнай. Т. (8-029) 6148331, (8-029) 2617912.

• Шчаняты Мопса. Маладзечна. Т. (8-029) 5545952.

**Іншае**

• Бульба буйная ў Маладзечне. Т. (8-029) 5506267.*

• Дзве гіры па 16 кг, налічнік. Т. (8-01771) 33401.

• Дровы, дробную бульбу. Вілейскі р-н. Т. Вел. (8-029) 3405845.*

• Новы камін пячны, керамічны, цёмна-карычневы. Т. Вел. (8-044) 9596823, (8-01771) 35150.

• Сукенка вясельная, памер 46-48, колер шампань, 1 раз б/у. Т. (8-044) 7283621.*

• Абрэзкі (гарбыль), 6 куб. м. Сам прывязу. 1 000 000 руб. Т. (8-029) 7876438, (8-025) 9173338.*



• Адзенне, абутак для хлопчыка 8-10 год, б/у, у выдатным стане, танна. Т. (8-044) 7283621.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёлу**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• Манеты да 1917 г. Выезд па ўсім рэгіёне. Т. (8-029) 6564123.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Інгалятар вытворчасці ВА "Электрамодуль", не ўжываны. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу "Памяць" Мядзельскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мінскага, Лагойскага раёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Монакуляр, бінокль марскі. Т. (8-029) 5019550.*

## ЗГУБЛЕНА

• Пасведчанне аб заканчэнні УКК "Надзея" ў Маладзечне ў 1995 г. аб прысваенні спецыяльнасці "Закройшчык верхняга адзення 5 разраду" на імя Раецкай Алены Францаўны лічыць несапраўдным. Т. (8-033) 3106784.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачніка ў Маладзечне. Т. (8-029) 6179097.

• Будаўніча-аддзелачныя работы ў Маладзечне. Т. (8-029) 2789572.

• Дахаўшчыка. Усе віды даху. Досвед. Т. (8-029) 9857406.*

• Дахаўшчыка. Усе віды работ у найкарацейшы тэрмін. Т. (8-029) 2581219.*

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

• Усе віды аддзелачных і будаўнічых работ. Т. (8-029) 8737115, (8-029) 2702321.*

• Усе віды аддзелачных работ, гіпсакардон, плітка, ламінат, пластык і інш. Т. (8-044) 5137340.*

● ВОЛЬНЫ ЧАС

# Гульня "Мазгабойня" прыйшла ў Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Інтэлектуальная камандная гульня "Мазгабойня" ўпершыню пройдзе ў Маладзечне 4 снежня.**

Арганізатар і куратар гульні **Руслан Куракевіч** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што ідэю гульні падказалі яму самі наведнікі "Рэд Бара":

– Госці нашай установы скардзіліся на тое, што няма чым заняць вечар і што надакучыла сядзець у інтэрнэце. Пагутарыў з сябрамі ў Мінску, яны падказалі праект "Мазгабойня".

**Першая гульня адбудзецца 4 снежня ў 19:00 у "Рэд Бары".**

Паўдзельнічаць у першай гульні можа кожны ахвотны.

**Вольга Лазар**, дырэктар "Рэд Бара", патлумачыла, што цяпер у суполцы гульні ў сацыяльных сетках можна падаць заяўку на ўдзел сваёй каманды.

У камандзе павінна быць ад 5 да 8 чалавек.

– Аднак калі вы проста жадаеце паспытаць свае сілы, – кажа Вольга, – а каманды аднадумцаў у вас няма, можна 4 снежня проста прыйсці ў "Рэд Бар". Мы паспрабуем з такіх "адзіночак" сабраць паўнавартасную каманду.

**Правілы гульні "Мазгабойні"**

Гульня складаецца з сямі тураў, у кожным з іх па сем пытанняў.

Пытанні абсалютна розныя: працягнуць цытату, перакласці слова, узгадаць тэрмін ці паняцце.

Ёсць музычны конкурс. У ім трэба будзе ўзгадаць, у якім фільме прагучала песня, назву кампазіцыі ці кампазітара.

У раўндзе з карцінкамі вам прапануюць здагадацца, што або хто паказаны на выяве.

Усе адказы каманда запісвае на спецыяльным бланку, які потым здаецца вядучым. Яны падводзяць вынікі і выносяць іх у табліцу на экран. Шукаць адказ у інтэрнэце падчас гульні забаронена. Можна атрымаць выніковыя 0 балаў.

– Усе пытанні рыхтуюць арганізатары і ўладальнікі "Мазгабойні". Пытанні мясцовыя будзем рыхтаваць самі, – кажа Руслан.

**– У чым адрозненне "Мазгабойні" ад іншых інтэлектуальных гульняў, напрыклад, ад "Брэйн-рынгу"?**

– Аднaчасова гуляе мноства камандаў. Няма задачы адказаць хутчэй за саперніка. А яшчэ тым, што "Мазгабойня" заўсёды ладзіцца ў барах або кавярнях – падчас гульні можна заказваць напоі і закускі. Пытанні лёгкія, з гумарам. Гэта больш забава, магчымасць цікава правесці час з сябрамі, чым бітва інтэлектуалаў.

Зарэгістравацца на гульню трэба будзе 2 снежня ў 12:00 у групе "Мазгабойня ў Маладзечне". Удзел у першай гульні бясплатны.

Інфармацыйным спонсарам гульні стане "Рэгіянальная газета".

**Наталля ТУР.**

● АФІЦЫЙНА

# Прынялі рашэнне пра перанос працоўных дзён на 2016 год

Савет Міністраў Беларусі зацвердзіў графік пераносу працоўных дзён ў 2016 годзе. Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове ўрада ад 23 лістапада 2015 года, паведамляе БелТА.

Працоўны дзень з пятніцы, 8 студзеня, пераносіцца на суботу, 16 студзеня.

Такім чынам, на праваслаўныя Каляды выхадныя будуць 7, 8, 9 і 10 студзеня.

Акрамя таго, працоўны дзень з панядзелка, 7 сакавіка, пераносіцца на суботу, 5 сакавіка.

Таксама варта дадаць, што ў 2016 годзе Радаўніцу будуць адзначаць 10 мая (бо праваслаўны Вялікдзень – 1 мая), адпаведна, у гэтым месяцы нас чакаюць вялікія выхадныя: ад 7 да 10 мая (з улікам таго, што 9 мая – панядзелак).

Арганізацыям дадзена права з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) ажыццяўляць перанос рабочых дзён у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**"Наша Ніва" паводле БелТА.**

● ЖЫЦЦЁВАЕ

# На жытнёвай мяжы

## "Хацела б ужо і памерці, ды толькі смерць не ідзе"

**Даўно жыве Ганна адна, ды й жыць ёй адной надакучыла. Хацела б ужо і памерці, ды толькі смерць не ідзе.**



Карціна Аляксандра Шылава "Цётка Каця", 1984 год.

Сядзець адной у пустой хаце ёй не хацелася. Выйдзе, бывала, у садок, сядзе на лавачку, сцішыцца, нават задрэмле, а тут зязюля кукуе і лічыць, і лічыць гады, якія Ганна пражыць яшчэ павінна. Злавалася, не любіла гэту птушку.

Некалі была і ў Ганны сям'я, быў муж, сынок быў. Пайшоў яе Рыгор на вайну ды і не вярнуўся. Сыночка падымала адна. А калі прыйшла пара, пайшоў у войска.

Служыў яе Сцёпка далёка, недзе на Поўначы. Ды там і застаўся жыць, бо ажаніўся, узяў у жонкі жанчыну з дзіцем, усынавіў. Так партам Ганна стала бабуляй. Напачатку адзін раз у два месяцы сынок пісаў ёй. Апавядаў, што ўсё ў яго добра, што сям'я павялічылася на дзве дзяўчынкі. Час ад часу Ганна пасылала ў далёкі край вясковыя гасцінцы ўсёй сямейцы.

Не агледзелася, як праляцелі гады. Выйшла на пенсію. А працавала ў калгасе даяркай. Ад цяжкай працы балела сэрца. А рукі ўсю ноч не ведала, дзе пакласці.

Ува сне часта бачыла Сцёпку. Які ён? Ці здаровы? Як дзеткі? Здавалася, птушкай паляцела б, ды не ведала куды. Пасылала і пасылала вестачку сыночку, а адказ быў такі: "Адрасат выбыў". Куды? Чаму маўчыць? Што здарылася? Месца сабе не знаходзіла, плакала сярод ночы і малілася, малілася. Прасіла Бога, каб той паслаў яе сыночку добры лёс, здароўе.

А сама ўжо адчувала, што надоўга ёй засталося гараваць на гэтым свеце. Прасіла Бога, каб хутчэй забраў яе на той свет. А ўбачыць сыночка ўжо і надзею страціла.

**Такіх, як Ганна, у вёсцы засталіся лічаныя. Але была ў яе сяброўка-суседка, хоць і нашмат маладзейшая. Аднойчы паклікала Ганна яе, адчыніла шафу ды і кажа: "Глядзі, суседачка, вось тут усё ў мяшэчку складзенае, гэта надзенеце на мяне. А гарэлка схаваная ў склепе, хопіць і на пахаванне, і на памінкі.**

Суседка маўчыць, толькі лыпае вачыма. А пасля і кажа: "Што гэта ты надумала? Напалохала моцна мяне". На вачах у сяброўкі паказаліся слёзы.

– Ну досыць, досыць, я ж яшчэ не памерла, – адказала. – А сыночку майму скажы, што я не крыўдую.

Апошнія гады восень у Беларусь прыходзіць нейк рана. Таму людзі не чакаюць халадоў, а стараюцца раней управіцца з агародам. Так і Ганна. Хоць і старая, а размяняла яна ўжо дзявяты дзясятак, але з самай раніцы завіхалася на агародзе. Ці не раней за іншых выкапала бульбачку, пара цыбулі, буракі. Ды моцна знемаглася. Прыйшла ў садок, села на лавачку, задумалася, прыдрамала. Глядзіць, а перад ёй стаіць яе сынок Сцёпачка. Смяецца і кажа: "Што, змарылася?"

Як ток прайшоў з галавы да пят, расплюшчыла вочы, а перад ёй стаіць яе сяброўка-суседка, гэта былі яе словы. Прысела яна на лаўку, спытала:

– Ну, а заўтра што будзеце рабіць?

– Знаеш, Марылька, заўтра ў мяне вялікі клопат, хачу пасеяць на мяжы жыта. І хачу папрасіць твайго Нічыпарку, каб зранку ўзараў, пакуль цёпла. Да моразоў жыцейка і ўзыдзе.

– Канешне, канешне, – адказвае Марыля, – ён паслухае.

Нічыпар працаваў на ферме пры конях. Яму дазвалялі браць каня дамоў. Ён і сабе рабіў, і гэткім, як Ганна, дапамагаў.

Просьбу Ганны Марыля перадала Нічыпару. Назаўтра раніцай Нічыпар быў на дварышчы ў Ганны. Завіхаўся, працаваў, а яшчэ ведаў, што Ганна абавязкова паставіць пляшку.

Ганна тым часам замяшала і дала есці кабанчыку, курам сыпанула ячменю і пачала рыхтаваць сняданак. Прынесла агурочкаў, спякла ў печы яешню, паклала хлеб, а на самы цэнтр стала паставіла бутэльку.

Сама паклікала Марылю, бо Нічыпар ужо скончыў сваю работу. Прыйшла Марыля і кажа:

– Ты, Ганначка, яму поўную пляшку дарма паставіла, ён з ёй нашкодзіць больш, чым у зямлі ўрад ці размінецца.

– Ну, няхай вып'е, працаваў жа чалавек.

Хутка сусед і сапраўды асалавеў. Марыля дапамагла яму падняцца, і яны пайшлі дадому.

Седзячы за сталом, Ганна неяк адчула сябе не зусім добра, калацілася сэрца, цяжка стала дыхаць, але прыгубіла, укусіла, гаманіла. Калі Марыля і Нічыпар выйшлі з хаты, Ганна, абапёршыся на кіёк, выйшла за імі. Марыля яшчэ хацела нешта сказаць, але Нічыпар тузануў яе, каб пайшлі шпарчэй.

Каб толькі ведала Марыля, што праз нейкую гадзіну на свежаўзаранай жытнёвай мяжы, у адзіноце і спакоі, па гадах цётка, а па душы сяброўка, памрэ яе дарагая суседка. Убачыўшы вечарам нябожчыцу на мяжы, прысеўшы, нібы перадыхнуць хвілінку-другую, яна ўсё зразумела, што недарэмна малілася, прасіла ў Бога, толькі яна, Ганна, ведала што.

Уляцеў у хату Нічыпар: "Марыля, во тэлеграма, Ганны сын прыязджае з сям'ёй, дзяўчо з пошты прынесла. Але Марыля маўчала, яна думала пра Ганну, што дачакалася сыночка і пахавае яе ён, а не чужыя, хоць і добрыя людзі.

**Галіна БУРКЕВІЧ,**
**Ілья.**

ГІСТОРЫЯ

# Мсціслаўскаму педтэхнікуму – 90 гадоў

## У ім атрымалі адукацыю многія настаўнікі нашага рэгіёна

**У лістападзе 2015 года Мсціслаўскаму дзяржаўнаму беларускаму педтэхнікуму спаўняецца 90 гадоў з дня яго адкрыцця.**

Пісьменнік, бібліяфіл, краязнавец і выдавец з Маладзечна Міхась Казлоўскі марыць, увесь час спадзяецца і чакае, што магчыма ўжо хутка будзе напісаная кніга аб Мсціслаўскім педтэхнікуме, перайменаваным пазней у педвучылішча. Аб яго выпускніках-настаўніках, якія плённа працавалі і ў школах Заходняй Беларусі, вядома ж, павінна быць кніга.

Круглая дата і клопаты Міхася Міхайлавіча падштурхнулі напісаць нарыс, і можа нехта з выпускнікоў знакамітай навучальнай установы адгукнецца на публікацыю і падзеліцца сваімі ўласнымі ўспамінамі.

А яшчэ было б добра, каб дзеці ці ўнукі тых настаўнікаў, якія працавалі ў нашым рэгіёне і якіх ужо няма з намі, паведамілі аб сваіх родных і даслалі ў рэдакцыю фотаздымкі і тэксты, тады, можа, і напісалася б кніга-мара. Гэта трэба зрабіць, бо набліжаецца стагоддзе навучальнай установы, якая адыграла вельмі важную ролю ў гісторыі Беларусі.

### Беларускія педтэхнікумы

У лістападзе 1925 года ў Мсціслаўлі адбылося ўрачыстае адкрыццё беларускага педтэхнікума. Адбыўся першы набор, і 142 студэнты прыступілі да вучобы. Аб гэтым напісана ў кнізе “Памяць. Мсціслаўскі раён”.

У беларускай энцыклапедыі падаецца звестка, што Мсціслаўскі педтэхнікум быў заснаваны ў 1926 годзе – гэта можа быць памылка, а можа, і не. Пацвердзіць немагчыма, бо пакуль няма адпаведнага дакумента ў Мсціслаўскім гісторыка-археалагічным музеі, і яго там шукаюць.

Яшчэ напісана, што на Беларусі ў 1921 годзе былі тры педтэхнікумы, у 1930-31 навучальным годзе – 18, у 1940-41-м – 26 ужо педвучылішчаў, у 1944-45-м – 23 педвучылішчы. У 1990-х гадах некаторыя педвучылішчы былі рэарганізаваныя ў педкаледжы. У 1999-2000 навучальным годзе ў Беларусі функцыянавала сем педвучылічаў, 11 педкаледжаў, тры індустрыяльна-педагагічныя каледжы і ў іх вучылася больш за 17 тысяч навучэнцаў.

Пачатак стварэння ў краіне тэхнікумаў быў пакладзены ў ліпені 1920 года пастановай калегіі Галоўпрафадукацыі РСФСР, якая зацвердзіла “Палажэнне аб тэхнікумах”. Ім карысталіся і беларускія органы адукацыі, бо беларускія тэрыторыі тады ўваходзілі ў склад Расійскай Федэрацыі.

### Роля сярэдніх спецыяльных устаноў

Тэхнікумы былі прызваныя даваць сярэднюю ўсеагульную і спецыяльную адукацыю. “Тэхнікум” – гэта назва была прыдуманая, і яна больш адпавядала сярэднім тэхнічным навучальным установам. Але тэхнікумамі доўгі час называліся педагагічныя, гандлёвыя, медыцынскія, мастацкія, музычныя, сельскагаспадарчыя і іншыя ўстановы сярэдняй адукацыі.

У пачатку 20-х гадоў 20-га стагоддзя ў савецкай дзяржаве партыйныя і дзяржаўныя органы актыўна шукалі месца і ролю сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў у агульнай адукацыйнай сістэме. Былі нават прапановы ліквідаваць сярэднюю спецыяльную адукацыю і пакінуць толькі агульную сярэднюю і вышэйшую.

Тады ўлады вырашылі, што тэхнікумы павінны быць навучальнымі ўстановамі. Яны будуць даваць тэхнічныя веды асобам, якія навучаліся не меней за два гады ў школе другой ступені, ці атрымалі спецыяльную падрыхтоўку. А яшчэ рабочым, якія “па сваім развіцці паспяваюць за курсам”.

Педтэхнікумы былі новым для Беларусі тыпам сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, дзе рыхтавалі настаўнікаў беларускіх пачатковых школ (1–4 класаў) у 1921–1937 гадах з тэрмінам навучання чатыры гады (з 1930 года – 3 гады). Яны ствараліся з мэтай адраджэння беларускай мовы і культуры, ажыццяўлялі палітыку беларусізацыі.



Фота з архіва Любові ШЫШКО

Выпускніцы Мсціслаўскага педвучылішча 1948 года, настаўніцы Залескай пачатковай школы былога Ільянскага раёна (цяпер – Вілейскі). Злева направа: Любоў Сцяпанаўна Шышко (Тураўцова), Антаніна Рыгораўна Шамялёва з вучнямі.



БССР
НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ АСВЕТЫ
Мсціслаўскі Дзяржаўны Беларускі ПЕДТЭХНІКУМ
19/VII 1936 г.
№ 152
г. Мсціслаўль

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

АТЭСТАТ

Прад'яўнік гэтага атэстата тав. Чепикова Е. Я.
якая нарадзілася ў 1902 годзе, паступіла ў 1934 годзе у Мсціслаўскі заочный педтэхнікум скончыла поўны курс указанага педтэхнікума атрымала наступную ацэнку акадэмічнай падрыхтаванасці па дысцыплінам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Гісторыя ВКП(б) і КП(б)Б | — | 14. Прыродазнаўства | добра |
| 2. Палітэканомія | добра | 15. Педагогіка | добра |
| 3. Эканомпалітыка | — | 16. Геаграфія | добра |
| 4. Асновы ленінізма | добра | 17. Педалогія | — |
| 5. Агульная гісторыя | добра | 18. Ваеннова справа | — |
| 6. Родная мова | добра | 19. Методыка географии | добра |
| 7. Беларуская літаратура | добра | 20. Метод. природозн. | добра |
| 8. Руская мова | добра | 21. | |
| 9. Руская літаратура | добра | 22. | |
| 10. Замежная мова | — | 23. | |
| 11. Матэматыка | поср. | 24. | |
| 12. Фізіка | посред | 25. | |
| 13. Хімія | — | 26. | |

Апрача таго т. — прайш[ла] патрэбную па навучальнаму плану педпрактыку і атрым[ала] ацэнку —
На падставе вышэйпаказанага тав. Чепикова як выканаўшы ўсе акадэмічныя запатрабаванні па курсу лічыцца скончыўшым заочный педагагічны тэхнікум.

Дырэктар [подпіс]
Заг. навучальнай часткай [подпіс]

Фотаздымак з Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музея.

Атэстат Е.І. Чэпікава.

У педтэхнікумы прымалі асоб ва ўзросце 15-18 гадоў пасля заканчэння сямігадовай школы, школы сялянскай моладзі і палітасветы.

Першы белпедтэхнікум быў адкрыты ў Мінску 1 кастрычніка 1921 года, і яму было прысвоенае імя Усевалада Ігнатоўскага. У 1927-28 навучальным годзе на Беларусі існавала 11 педтэхнікумаў. У іх вывучаліся такія прадметы, як гісторыя, класавая барацьба, асновы ленінізму, гістарычны матэрыялізм, савецкае будаўніцтва, палітэканомія, родная мова і беларуская літаратура і методыка іх выкладання, фізіка, хімія, матэматыка, прыродазнаўства, геаграфія, псіхалогія.

Звярніце ўвагу, у педтэхнікуме навучэнцы вывучалі не беларускую, а родную мову – тады была іменна такая вучэбная дысцыпліна і ў беларускіх школах. Чаму цяпер не так, як тады? Лічу, што лепшую правільную назву змянілі на правільную, але не лепшую. Навошта?

У Мінску існавалі яшчэ яўрэйскі педтэхнікум і польскі. У красавіку 1937 года педтэхнікумы былі рэарганізаваныя ў педвучылішчы з трохгадовым тэрмінам навучання. Пасля гэтай рэарганізацыі засталося 12 беларускіх педвучылішчаў, у тым ліку Мсціслаўскае.

### Іван Бялькевіч – першы дырэктар Мсціслаўскага педтэхнікума

Мсціслаўскі педтэхнікум праіснаваў да 1937 года. Першым дырэктарам там працаваў Іван Кандратавіч Бялькевіч. Вучэбныя дысцыпліны выкладалі пераважна выпускнікі Белдзяржуніверсітэта. Беларускую мову і літаратуру выкладаў **А.У.Пылін**, гісторыю – **С.Л.Вастэрман**, фізіку – **Г.П.Анкіновіч**, матэматыку – **Г.М. Кавалёў** і **У.М.Машын**, фізкультуру – **В.Ц.Новікаў**.

Іван Бялькевіч таксама скончыў БДУ у 1925 годзе. Ён нарадзіўся ў 1883-м у вёсцы Варонічы Слонімскага павета Гродзенскай губерні. Вучыўся ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі і скончыў яе ў 1902 годзе. Працаваў настаўнікам, інспектарам Наркамата асветы БССР (1920-25 гг.).

Уладзімір КАЖАМЯКА,
Ілья Вілейскага раёна.

Працяг будзе.

КАЛЯНДАР

## 27 ЛІСТАПАДА

**115 гадоў** з дня нараджэння Рыгора Пукста (1900–1960), беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**115 гадоў** з дня нараджэння (1900) Вячаслава Лаўскага, грамадска-культурнага дзеяча, педагога, аднаго з заснавальнікаў беларускага студэнцкага руху.

## 29 ЛІСТАПАДА

**1830 год.** Пачатак нацыянальна-вызваленчага паўстання.

## 30 ЛІСТАПАДА

**270 гадоў** з дня нараджэння (1745 ці 4 лютага 1746 года, дакладная дата невядомая) Тадэвуша Касцюшкі. Нарадзіўся ў Рэчы Паспалітай, у вёсцы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Ваенны інжынер і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, які стаў нацыянальным героем у Беларусі, Польшчы і ЗША. У 20 гадоў скончыў кадэцкі корпус у Варшаве, у 1769 пераехаў у Францыю, каб працягнуць навучанне. У 1774 годзе вярнуўся ў Рэч Паспалітую, праз два гады пасля яе першага падзелу. У 1776 годзе пераехаў у Паўночную Амерыку, дзе прыняў удзел у вайне за незалежнасць ЗША ў званні палкоўніка Кантынентальнай арміі. Там распрацоўваў і камандаваў будаўніцтвам самых сучасных умацаванняў. У 1783 годзе, у знак прызнання яго заслуг, Кантынентальны кангрэс вылучыў яго ў брыгадныя генералы. Вярнуўшыся ў 1784 годзе на радзіму, далучыўся да арміі Рэчы Паспалітай у званні генерал-маёра. Праз два гады пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай, якая прывяла да другога падзелу федэрацыі, ён арганізаваў паўстанне ў сакавіку 1794 года, узначаліўшы яго. Расійскія войскі захапілі яго ў бітве ў кастрычніку 1794 года. Паражэнне паўстання Касцюшкі ў лістападзе 1794 прывяло да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, які спыніў існаванне Вялікага Княства Літоўскага. У 1796 годзе, пасля смерці Кацярыны Вялікай, Касцюшка быў памілаваны Паўлам I і эміграваў у ЗША. Пасля пераехаў у Еўропу і жыў у Швейцарыі да смерці ў 1817 годзе.

**120 гадоў** з дня нараджэння (1895) Андрэя Вангіна-Блажэвіча, беларускага акцёра, вядучага акцёра групы Галубка – Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра. Памёр у 1977 годзе.

## 1 СНЕЖНЯ

**95 гадоў** з часу стварэння (1920) пры Віленскім універсітэце Беларускага студэнцкага саюза (існаваў да 1939 г.).

Марыя БЕРАСНЕВА.

# У крамах, куды лю
# не шчасце, паную

МАЛАДЗЕЧНА

**У крамы рытуальных паслуг людзей прыводзіць гора. А ў іх працуюць людзі, якія заўсёды знойдуць словы спачування, суцяшэння, падтрымкі. А калі трэба, то і некалькі кропель карвалолу.**

Як гэта, прыходзіць штодзень на працу, адкрываць дзверы магазіна і ўпірацца позіркам у вянкі ды труны? Суцяшаць людзей і пры гэтым не губляць пачуццё аптымізму, – спыталіся мы ў тых, хто працуе ў сферы рытуальных паслуг 3, 10 і 20 гадоў.

### Труны за шэсць мільёнаў набываюць не толькі багатыя

**Вольга Аляксандраўна** працуе ў магазіне рытуальных паслуг амаль чатыры гады.

Жанчына прызнаецца, што асабліва не задумвалася пра выбар работы, пайшла туды, дзе ёсць месца.

– Адзінае, што я праходзіла адбор. Не кожны можа працаваць у гэтай сферы, гэта ж заўсёды трэба адчуваць гора людзей, знаходзіць патрэбныя словы, быць цярплівым. Бывае, што крычаць, нервуюцца, плачуць. А бывае, што і анекдоты расказваюць.

Вольга Аляксандраўна кажа, што доўга вучылася пісаць прыгожым почыркам надпісы на жалобных стужках.

– А цяпер нам паставілі камп'ютары, стала лягчэй. Уводзіш тэкст і друкуеш яго.

А самае цяжкае ў працы, паўтарае жанчына, гэта працаваць з людзьмі. І работа ў яе ёсць кожны дзень. Прычым, купляюць не толькі вянкі. Амаль штодня людзі набываюць труны, рытуальнае адзенне.

У продажы ёсць труны ад 400 тысяч да 6 мільёнаў.

– Няпраўда, што дарагія набываюць толькі багатыя. Бывала, што людзі з зусім сярэднім дастаткам жадалі менавіта ў такой труне пахаваць свайго любімага дзядулю ці бабулю.

### У нас жа тут нябожчыкаў няма, толькі кветкі, толькі прыгажосць

**Лілія Іванаўна** працуе ў салоне рытуальных паслуг у Гелянове ў Маладзечне.

– У нас тут людзей нямнога бывае. Хутчэй успамінаюцца гісторыі, звязаныя з тым, што даводзілася прыходзіць ноччу, адпускаць людзям вянкі ці труну.

Запомніліся Лілії Іванаўне людзі, што прыехалі па яе дамоў каля 12 ночы, каб яна адкрыла магазін і прадала труну.

А яшчэ даводзілася адкрываць краму людзям ноччу, якія купілі вянкі, каб хутчэй перасекчы мяжу з Украінай.

– Не-не, яны насамрэч ехалі на пахаванне, але вянкі трэба было купіць тут, каб меней трымалі на мяжы.

Першае, што пытаюцца пакупнікі, гэта ці не страшна Лілії Іванаўне тут працаваць, на што жанчына адказвае, што нябожчыкаў яна не бачыць, толькі кветкі.

Цяжка ёй працаваць з людскім горам, асабліва калі бацькі прыходзяць па пахавальныя прыналежнасці для сваіх дзяцей:

– Мне трэба спытацца, што пісаць на стужцы ці крыжы, а я не магу, камяк у горле стаіць.

Каля ўвахода ў павільён стаіць труна.

Лілія Іванаўна працягвае:

– А бывае, што людзі заходзяць проста паглядзець на цэны. Паглядзяць на гэту труну і абураюцца: "Ай, як дорага". Я кажу: "Дык ёсць жа таннейшыя". А чалавек адказвае: "Ды мне не трэба, я проста зайшоў на цэны паглядзець".

Здараліся ў рабоце Ліліі Іванаўны і казусы:

– Прыйшлі аднойчы людзі купіць вянок для нейкага сваяка свайго калегі. Прадыктавалі імя, я напісала яго на стужцы. Праз некаторы час вяртаюцца: "Ай-яяй, што вы нарабілі"... Аказалася, што яны назвалі імя калегі, а не яго сваяка. І жываму чалавеку на вянку напісалі: "Помнім, любім, спачуваем". Уяўляю, што было, калі яны вянок прынеслі калегу.

Лілія Іванаўна заўважае, што людзі, калі заходзяць да яе ў салон, адразу пачынаюць кашляць:

– Гэта ад хіміі, з якой вянкі зробленыя. Сама доўгі час не магла прывыкнуць да гэтага паху. Дзверы насцеж адчыняла, праветрывала.

Прыходзяць людзі ў магазін і з парога:

– Ну, у вас тут і пах...

– А чым тут павінна пахнуць? – задае пытанне Лілія Іванаўна.

### Чаму гаспадары вырашылі, што іх сабака праваслаўны?

**Ларыса Татун** працуе начальнікам пахавальнага бюро з лютага сёлетняга года, да гэта была загадчыцай гарадскіх могілак.

Так атрымалася, што наш візіт да Ларысы Канстанцінаўны супаў з перапынкам на абед.

– Нас пытаюцца, ці можам мы есці на працоўным месцы? – Можам! – адказалі жанчыны, якія збіраліся абедаць.

На просьбу пакуль зрабіць фотаздымак з салона, адказалі:

– Калі ласка, толькі трунаў няма, усе за выхадныя разабралі, пачакайце, каля чатырох павінны падвезці.

Таму размову з Ларысай Татун мы пачалі з пытання:

**– Ці шмат працы ў пахавальным бюро?**

– Так, пры гэтым гаворка ідзе не толькі пра пахаванне людзей, а пра догляд могілак.

А самае цяжкае, як і для іншых нашых суразмоўцаў, псіхалагічны момант:

– У маім кабінеце стаіць крэслы, каб чалавек адразу мог сесці. У аптэчцы напагатове і карвалол, і сардэчнік, і нашатыр. Побач з намі знаходзіцца станцыя хуткай медыцынскай дапамогі. Двойчы за час маёй працы даводзілася бегчы за дактарамі.

Здаралася ў практыцы Ларысы Канстанцінаўны выслухоўваць і незвычайныя просьбы.

– Памірае чалавек. Побач з ім, калі ён сямейны, звычайна пакідаюць месца для яго жонкі ці мужа. Дык вось была такая гісторыя, калі дзеці прыйшлі замаўляць капанне долу для маці, якая памерла значна пазней за свайго мужа, і слёзна прасілі выканаць яе просьбу, не хаваць побач з мужам, з якім яны пры жыцці часта сварыліся.

Здараліся дзіўныя гісторыі і на могілках.

– Каля самых могілак, з боку лесу, нехта пахаваў свайго сабаку. І як бы, калі ласка, але чаму чалавек вырашыў, што яго сабака праваслаўны і паставіў па ім менавіта праваслаўны крыж? Давялося хуценька прыбраць гэты крыж, каб не пакрыўдзіць веруючых наведнікаў могілак.

### Шмат людзей прыходзяць замовіць помнік сабе

Гаспадыня салона рытуальных паслуг **Людміла** працуе ў сферы рытуальных паслуг усё жыццё. І прызнаецца, што праца ёй падабаецца, нягледзячы на тое, што кантынгент, як кажа сама, у яе цяжкі.

– Трэба шмат гаварыць з людзьмі. Часта наведнікі самі хочуць расказаць, што і як у іх здарылася. Бывае, што наадварот даводзіцца шмат іншых пытанняў людзям задаваць, каб адцягнуць іх ад уласнага гора. А з бабулькамі, што прыходзяць па свечкі і лампадкі, проста трэба пагаварыць пра жыццё.

Бывае, Людміле тэлефануюць людзі з іншых гарадоў, просяць з'ездзіць на могілкі, прыбрацца там або пафарбаваць агароджу:

– Няма ў нас такой паслугі. Хаця яна быць павінна.

Шмат людзей прыходзіць замовіць помнік сабе.

– Пры гэтым, прыходзяць людзі, якім гадоў па 75. Ім яшчэ жыць ды жыць. Але кажуць: "Пакуль я магу, пакуль ёсць грошы, я замоўлю помнік". Выконваем і такія просьбы.

**– А труны загадзя не купляюць?**

– Прайшлі тыя часы. Яшчэ 20 гадоў таму, калі я хавала свайго бацьку, у Маладзечне немагчыма было дастаць труну. Гэта я памятаю. Цяпер жа з гэтым праблем няма.

Калі развітваліся ў крамах з прадавачкамі, злавілі сябе на думцы, што ў магазінах рытуальных паслуг ніколі не пачуеш: " Заходзьцеся да нас яшчэ". І не трэба.

**Наталля ТУР,**
**Настасся РОЎДА.**



Штодзень на могілках у Лазаўцы хаваюць у сярэднім двух-трох чалавек.

# дзей прыводзіць
# ць кветкі

Фота psychologiawpolsce.pl

● ХАКЕЙ

## "Дынама-Маладзечна" пакуль на пятым месцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Другі сезон запар каманда "Дынама-Маладзечна" выступае ў экстралізе чэмпіянату Беларусі па хакеі. Усяго ўдзельнічаюць 12 калектываў. Схема правядзення розыгрышу з'яўляецца даволі мудрагелістай.**

Спачатку быў праведзены двухкругавы турнір (22 туры). Апошнія яго матчы згуляныя ў мінулыя выхадныя. Турнірная табліца сфарміравалася наступным чынам (глядзіце турнірную табліцу).

Цяпер адбылося дзяленне на верхнюю шасцёрку і ніжнюю шасцёрку, знутры якіх каманды правядуць чатырохкругавыя турніры (яшчэ 20 тураў). Потым адбудуцца серыі гульняў на выбыванне (плэй-оф), пачынаючы з чвэрцьфіналаў. Такім чынам у верхняй шасцёрцы ўдзельнікі змагаюцца за больш выгадныя пазіцыі перад плэй-оф, а ў ніжняй шасцёрцы – за два лепшыя радкі, каб у плэйоф патрапіць.

Сустрэчы будуць праходзіць па аўторках, чацвяргах і суботах. Па суботах пачатак гульняў у 17:00, тады як на старце сезона ў выхадны дзень матчы пачыналіся ў 13:00, што аказалася не надта зручна для балельшчыкаў.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

**Турнірная табліца**

| Каманды | | Ачкі |
|---|---|---|
| 1. | Юнацтва (Мінск) | 55 |
| 2. | Шахцёр (Салігорск) | 54 |
| 3. | Нёман (Гродна) | 48 |
| 4. | Гомель | 48 |
| **5.** | **Дынама (Маладзечна)** | **46** |
| 6. | Металург (Жлобін) | 37 |
| 7. | Ліда | 26 |
| 8. | Хімік-СКА (Наваполацк) | 23 |
| 9. | Брэст | 21 |
| 10. | Дынама (Бабруйск) | 13 |
| 11. | Віцебск | 13 |
| 12. | Магілёў | 12 |

**Расклад матчаў "Дынама" (Маладзечна) да Новага года**

| Дата | | | Сапернік |
|---|---|---|---|
| **26 лістапада** | чацвер | дома | Шахцёр |
| **28 лістапада** | субота | на выездзе | Металург |
| **1 снежня** | аўторак | на выездзе | Нёман |
| **3 снежня** | чацвер | дома | Гомель |
| **8 снежня** | аўторак | дома | Юнацтва |
| **10 снежня** | чацвер | на выездзе | Юнацтва |
| **24 снежня** | чацвер | на выездзе | Гомель |
| **26 снежня** | субота | дома | Металург |

● НАВІНЫ

## У Ракаве запрацавала шматфункцыянальная спартыўная пляцоўка

ВАЛОЖЫН

Урачыстае адкрыццё пляцоўкі адбылося ў лістападзе.

Спартыўная пляцоўка прызначаная для арганізацыі спартыўнамасавай працы не толькі са школьнікамі, але і з насельніцтвам аграгарадка. Яна абсталяваная футбольнымі варотамі, стойкамі для стрытбола, а таксама пры неабходнасці ўсталёўваецца сетка для валейбола. Ёсць мачты асвятлення.

## Маладзечанскія фехтавальшчыкі – другія ў Еўропе

МАЛАДЗЕЧНА

У пачатку лістапада ў сталіцы Балгарыі ў Сафіі на этапе Кубка Еўропы па фехтаванні сярод кадэтаў выхаванцы маладзечанскай ДЮСШ №2 у камандных спаборніцтвах занялі другое месца.

**Максім Пінчук** заняў 3 месца, **Вячаслаў Лук'янцаў** – 23. Трэніруе іх трэнер-выкладчыца **Алена Рыжанкова**.

Аддзел інфармацыі.




Каманда "Дэльта" ў сезоне 2015-2016 плануе стаць чэмпіёнам лігі, у якой яны цяпер выступаюць.

# У аматарскіх хакейных камандах гуляюць і пенсіянеры, і школьнікі

МАЛАДЗЕЧНА

**Далёка не ўсе жыхары Маладзечна ведаюць, што акрамя маладзечанскай прафесійнай хакейнай каманды "Дынама-Маладзечна" на лёд спартыўна-забаўляльнага комплексу выходзяць і каманды аматараў, якія любяць хакей і гуляюць у яго нічым не горш, чым прафесійныя хакеісты.**

У Маладзечне тры такія каманды.

Усім тром мы задалі пяць пытанняў:

1. **Чаму каманда мае такую назву?**
2. **Калі каманда ўтварылася?**
3. **Хто іграе ў камандзе?**
4. **Якое самае высокае дасягненне каманды?**
5. **Самы запамінальны матч?**

### "Лядовыя пінгвіны" – таму што падалі пузам на лёд

Абаронца каманды **Сяргей Гайдукевіч** прыгадаў, адкуль узялася назва каманды:

– Мы гуляем ужо пяты год. І за гэты час самі паверылі ў легенду, якую калісьці прыдумалі. Калі ўпершыню выйшлі на лёд – ногі раз'язджаліся, падалі жыватам на лёд, быццам пінгвіны. Затое цяпер у нас свая фірменная "фішка". Нашы заўзятары ўжо ведаюць пра яе і не разыходзяцца, пакуль не ўбачаць, як мы ў канцы матча разбягаемся і падаем жыватамі на лёд.

Каманда "Лядовыя пінгвіны" ўтварылася ў кастрычніку 2011 года. Першы камандны матч хлопцы згулялі за некалькі дзён да афіцыйнага адкрыцця Лядовага палаца.

Большасць гульцоў каманды – маладзечанцы. Цяпер за каманду гуляе адзін хлопец са Смаргоні і трое ашмянскіх гульцоў.

– А касцяк каманды, – кажа Сяргей, – гэта хлопцы, якія выраслі ў адным раёне. Напрыклад я, **Сяргей Траццяк**, і **Сяргей Півавар** раслі на Лясных. І з дзяцінства гулялі ў хакей.

У першы год існавання каманды "Лядовыя пінгвіны" выйгралі турнір, прысвечаны Дню Перамогі. Тады маладзечанскія хакеісты абыгралі каманду з Раўбічаў – 9:8.

У 2012 годзе ў лізе "Навічок" у фінальнай гульні саступілі камандзе "Hawks".

У 2013 годзе ў дывізіёне "Аматар" "пінгвіны" сталі трэцімі.

Летась у адкрытым чэмпіянаце горада Мінска сталі шостымі.

Сёлета "Лядовыя пінгвіны" адыгралі ўжо сем матчаў, пяць з якіх яны выйгралі.

Самы запамінальны матч, кажа Сяргей Гайдукевіч, быў якраз у першым сезоне супраць каманды "Раўбічы". І матч 2012 года, які "пінгвіны" выйгралі з лікам 6:0.

**На дамашняй арэне "пінгвінаў" можна будзе пабачыць толькі тройчы да серыі плэйоф. Гульні адбудуцца 21 лютага, 20 сакавіка і 10 красавіка.**

### "М-3" – таму што маладзечанская

– Назва каманды вельмі простая: "М-3", – распавядае капітан каманды **Максім Бялоў**. – А значыць гэта, што ў Маладзечне тры каманды, наша трэцяя.

Утварылася каманда ў лютым 2012 года. Яна арганізоўвалася паступова. У розны час у ёй гулялі і маладзечанцы, і гульцы з Вілейкі, і са Свіры, і з Пастаў.

На пытанне пра дасягненні каманды Максім Бялоў сціпла адказаў, што самае галоўнае дасягненне для іх, гэта калі каманда працягвае існаваць, нягледзячы на цяжкія фінансавыя ўмовы.

Каманда працягвае аб'ядноўваць як пенсіянераў, так і школьнікаў. Трэніруецца яна двойчы на тыдзень.

### У "Дэльце" гуляюць тры пакаленні адной сям'і

Яшчэ адна аматарская маладзечанская каманда ўнікальная тым, што ў яе складзе гуляюць тры пакаленні мужчын адной сям'і.

**Віктар Жураўлёў**, якому 60 гадоў, яго сын **Аляксандр**, абаронца каманды, якому 39 гадоў, і **Антон Жураўлёў**, 19-гадовы хакеіст.

Каманда "Дэльта" ўтварылася ў 2011 годзе. Першапачатковая задума была стварыць каманду ветэранаў, але потым у яе падцягнулася моладзь. Сёння ў камандзе гуляе 26 чалавек.

– Што датычыцца назвы, – расказвае Аляксандр Жураўлёў, – то яе прапанаваў адзін з гульцоў, у якога была свая фірма з такой жа назвай. Ён тады сказаў: "Назавіце каманду "Дэльта", а я буду вашым спонсарам. Каманду назвалі, а спонсарам ён так і не стаў.

Сваім самым найбольшым дасягненнем "Дэльта" лічыць трэцяе месца ў лізе "Навічок", якое каманда заняла летась.

Сёлета каманда гуляе ў гэтай жа лізе, аднак плануе заняць у ёй першае месца.

Самы запамінальны матч Аляксандр назваць не змог. Не запомніўся яму нават матч, які каманда выйграла 14 лістапада з лікам 11:0.

– Нецікавы матч, інтрыгі не было. Калі гульня ідзе ў адныя вароты, такія гульні не запамінаюцца. Цікава, калі да канца гульні невядома, хто пераможа, калі захоўваецца нерв.


Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

КОНКУРСЫ

# Паштоўку “РГ” дакладней за ўсіх разгадала Алеся Клімовіч

**Чытачы “РГ” у конкурсе “Разгадай паштоўку” паказалі сябе як знаўцамі рэгіёна, так і багатымі фантазёрамі.**

Мы прапанавалі нашым чытачам разгадаць задуму мастачкі **Алесі Птушкі**, якая праілюстравала рэгіён, падабраўшы кожнаму раёну асэнсаваны вобраз. Працу дзяўчына выканала ў тэхніцы выцінанкі. А мы папрасілі чытачоў падумаць, што значыць вобраз кожнага з раёнаў.

Лепш за ўсіх справілася наша пастаянная чытачка **Алеся Клімовіч** з Маладзечна. Яна выйграла фота ад карэспандэнткі “РГ” **Настассі Роўды** і набор з 10 паштовак. Алеся разгадала сімвалы да ўсіх сямі раёнаў.

Другое месца падзялілі **Ганна Трацяк** са Смаргоншчыны, **Вячаслаў Лебедзеў** з Маладзечаншчыны і **Ганна Баканоўская**, якая цяпер жыве ў Германіі, а вырасла ў Маладзечне. Яны атрымліваюць набор з пяці паштовак.

Трэцяе месца заняла віляйчанка **Ірына Быкоўская**, якой рэдакцыя ўручыць набор з трох паштовак.

Расшыфроўку глядзіце на фота. Удзельнічайце ў наступных конкурсах “РГ”, якія мы праводзім і праз газету, і праз сайт, і праз нашы суполкі ў сацыяльных сетках.

**Аддзел інфармацыі.**

**АСТРАВЕЦ**
**Астравеччына – месца нерасту рэдкіх для Беларусі ласасёвых рыб. Стронгу можна знайсці на гербе Астраўца.**

**СМАРГОНЬ**
**Залессе – радзіма сусветна вядомага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага.**

**АШМЯНЫ**
**Ашмяншчына знакамітая Гальшанскім замкам, руіны якога захаваліся ад 16 стагоддзя.**




**МЯДЗЕЛ**
**На Мядзельшчыне знаходзіцца самае вялікае возера Беларусі – Нарач.**

**ВІЛЕЙКА**
**Птушка сімвалізуе чаек над Вілейскім вадасховішчам. І яшчэ гэта сімвалічны подпіс аўтара паштоўкі – Алесі Птушкі.**

**МАЛАДЗЕЧНА**
**“Горад Сонца”. А да таго ж месца перасячэння чыгуначных і аўтамабільных дарог Беларусі.**

**ВАЛОЖЫН**
**Вядомы Налібоцкай пушчай з векавымі дубамі.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

“**Казка пра цара Салтана**” (казка-паэма), А.Пушкін (рус. мова)
29 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ “Батлейка” УНП 600136804





## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, ваенны “**Крэпасць: Шчытом і мячом**” (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
29 лістапада – у 13:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі “**Сава. Сэрца воіна**” (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
28 лістапада – у 15:30
29 лістапада – у 17:00
1 снежня – у 17:10
2 снежня – у 17:10
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка “**Марсіянін**” (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
28 лістапада – у 17:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, анімацыя “**Добры дыназаўр**” (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
27 лістапада – у 17:00 і 22:00
28 лістапада – у 13:30 і 20:00
29 лістапада – у 15:00 і 19:00
30 лістапада – у 21:00
1 і 2 снежня – у 19:00
3 снежня – у 17:00
Цана білета: 30 000 – 60 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды “**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка II**” (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
27 лістапада – у 19:00
28 лістапада – у 22:00
29 лістапада, 1 і 2 снежня – у 21:00
30 лістапада – у 18:00
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Прэм’ера! Прыгоды, баявік, драма “**У сэрцы мора**” (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3 снежня – у 19:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм’ера! Фэнтэзі “**Ён – дракон**” (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3 снежня – у 21:30
Цана білета: 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма, меладрама “**Дасталі**” (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
27, 28 лістапада – у 19:30
29 лістапада – у 21:30
30 лістапада – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Жахі “**Пячора**” (Іспанія, 2013, пасля 16 год)
27, 28, 30 лістапада – у 21:30
29 лістапада – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя “**Песня мора**” (Ірландыя, Данія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
27, 28 лістапада – у 17:30
29 лістапада – у 14:00 і 17:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Мультыплікацыйны альманах “**Вясёлыя біяграфіі**” (Расія,




2015, без узроставых абмежаванняў)
28 лістапада – у 16:00
29 лістапада – у 12:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя “**КінаДзяцінства. Мікраполіс**” (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 лістапада – у 12:30
29 лістапада – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя “**Самыя праўдзівыя гісторыі**” (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 лістапада – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм’ера! Жахі “**Ваўчынае логава**” (ЗША, 2013, пасля 16 год)
1 і 3 снежня – у 19:30
2 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм’ера! Камедыя “**Супер-фарсаж**” (ЗША, 2014, пасля 16)
1 снежня – у 21:30
2 снежня – у 19:30
3 снежня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**
**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя “**Прыгоды Падынгтона**”
27 лістапада – у 18:00
28, 29 лістапада – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер “**Заложніца 2**” (Францыя, пасля 16 год)
27 лістапада – у 19:30
28 лістапада – у 20:00
29 лістапада – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя “**Астэрыкс: Зямля багоў**”
28 лістапада – у 13:30
29 лістапада – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя “**КінаДзяцінства. Пра мяне**”
28 лістапада – у 15:00
29 лістапада – у 12:50
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма “**Серэна**” (ЗША, Францыя, пасля 16 год)
28 лістапада – у 18:00
29 лістапада – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя “**Добры дыназаўр**”, 3D
27 лістапада – у 17:30
28, 29 лістапада – у 13:00, 16:30
Цана білета: 30 000 - 50 000

Баявік “**Чорная імша**”
27 лістапада – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка “**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка II**”, 3D
27 лістапада – у 21:20
28 лістапада – у 18:00
29 лістапада – у 18:00 і 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя “**Сава. Сэрца воіна**”, 3D
28, 29 лістапада – у 14:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастыка **“Марсіянін”**, 3D
28 лістапада – у 20:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | 5 | | | | | 8 |
| 1 | 2 | | | | 8 | | | |
| | | 8 | | 1 | | | 9 | |
| | 8 | | 2 | | 5 | | | 7 |
| | 5 | | | | | | 2 | |
| 7 | | | 6 | | 4 | | 8 | |
| | 1 | | | 6 | | 4 | | |
| | | | 4 | | | | 6 | 9 |
| 4 | | | | | 3 | 1 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ГАРАСКОП
27 ЛІСТАПАДА – 3 СНЕЖНЯ


**Авен.** Кантралюйце свае эмоцыі і пачуцці, бо яны могуць выйсці за рамкі адносін з партнёрамі ці роднымі.


**Цялец.** Вы цяпер самыя ўдачлівыя, таму што цяжкасці зараблення грошай і фінансавыя праблемы абыдуць вас бокам. Многія паклоннікі змагаюцца за ваша свабоднае сэрца.


**Блізняты.** Старайцеся весці сябе спакойна, больш адпачывайце, а калі ўбачыце, што абставіны перасягаюць вас, то проста адыдзіце ў бок ці адкладзіце вырашэнне пытання на больш спрыяльны перыяд.


**Рак.** У вас узнікнуць яркія пачуцці, якія можна будзе выкарыстаць для творчасці. Калі вы захочаце, то можаце стварыць штосьці цудоўнае. І для гэтага неабавязкова быць мастаком ці паэтам.


**Леў.** У большасці сваёй, больш чулага і больш добрага чалавека, чым вы, складана знайсці. Але цяпер вам варта паклапаціцца пра сябе.


**Дзева.** Жывіце так, як лічыце патрэбным, і не слухайце нікога. Ваша жыццё залежыць толькі ад вас саміх.


**Шалі.** Каб атрымаць перамогу, вам неабходна ацаніць сябе і ўсе свае матывы справядліва. Бо самы галоўны вораг – вы самі. Вы ставіце ўсё пад сумненне, не верыце ў свае сілы і здольнасці. Паверце ў сябе, і шлях да поспеху будзе нашмат прасцейшы.


**Скарпіён.** Расслабцеся, атрымоўвайце задавальненне ад дробязяў, радуйце партнёра сюрпрызамі, цаніце яго проста за тое, што ён побач.


**Стралец.** Вам трэба знайсці ўзаемаразуменне з самім сабой, і свет вакол вас зайграе новымі, яркімі фарбамі.


**Казярог.** Утрымлівайце сябе ад эмацыйных усплёскаў, нават калі вам здасца, што партнёр перайшоў грань у сваіх капрызах. Даруйце яму слабасці, ўзамен ён падорыць вам душэўнае цяпло і клопат. Стане для вас крыніцай прыемных эмоцый і маральнай падтрымкай.


**Вадалей.** Для адзінокіх важны момант тыдня – поўня ў ноч з серады на чацвер. У гэты час вырашацца шмат якія пытанні, якія трывожылі вас у каханні. У вас з’явіцца рашучасць пазмагацца за каханне. А астатніх парадуе рамантычнае падарожжа.


**Рыбы.** Чым больш сур’ёзныя вашы намеры, тым больш перспектыў і шчаслівых магчымасцяў вас чакае.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

Рэгіянальная газета. Rh.by



## НАДВОР'Е

### 28 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -3 / -2 | | -4 / -2 | | -1 / -1 | | -1 / 0 | |
| | 748 | → 1 | 742 | ← 5 | 738 | ← 2 | 742 | → 6 |
| Вільня | -2 / -1 | | -4 / 0 | | -1 / +0 | | -2 / +1 | |
| | 753 | ↗ 3 | 746 | ↑ 5 | 744 | ↑ 1 | 747 | ↗ 3 |

Тэмпература паветра; Воблачнасць, ападкі; Цiск (мм рт. сл.); Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.05
Захад 16.56
Даўжыня дня 7.49

Усход 19.49
Захад 11.04
Квадра 3

Віцебск: -1 / -2, 748, ↑ 3
Мінск: -4 / -2, 742, ← 5
Гродна: -3 / 0, 745, ↖ 4
Магілёў: -4 / -1, 747, ↑ 4
Брэст: -2 / +2, 744, → 7
Гомель: -3 / 0, 745, ↖ 4

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -13,6 °C у 1989 годзе
Максімальная тэмпература +7,1 °C у 1960 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,9 мм у 1983 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Што за кухонны трылер прывезлі на суд маладзечанскім гледачам акцёры з Віцебска – у наступным нумары.



## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Вясковыя творцы цікавейшыя за тусоўшчыкаў сталічнай багемы – вандроўка па Мядзельшчыне**

Цудоўныя людзі. Сапраўды, чытаць такія матэрыялы цікава. ***Таццяна.***

**Вось ужо паўгода вядомы краязнаўца з Астравеччыны Алесь Юркойць знаходзіцца пад следствам у мінскім СІЗА**

Даўно знаёмы з Алесем. Будзем спадзявацца – справядлівасць пераможа. ***Віктар.***

**У "Еўраопце" ў Мядзеле скралі кашалёк з рублямі і еўра**

Вярніце грошы гаспадару! Вы згубіце нашмат больш, жыццё – бумеранг! Чужыя грошы не сагрэюць! Сумленне, прасынайся.

**Каля "Бярозкі" ў Маладзечне сутыкнуўся аўтобус з машынай (Фота)**

Гадкі паварот налева, асабліва калі ў левым радзе аўтобус, тады ўвогуле агляду няма. Ну, вельмі сюды стрэлачку хочацца. ***Жанна.***

**На Нарачы два дні лавілі рыбу. І потым адпусцілі ў возера (Шмат фота)**

Такі шчупак прыгожы. Ён пасля будзе нясмачны, калі вельмі вялікі, а гэты добры. Эх... ***Ірына.***

**Маладзечна стане культурнай сталіцай Беларусі 2016 года**

Усё! Угаварылі! Еду! ***Ілона.***

Эх, нам бы яшчэ знайсці рабочых месцаў пабольш, каб не матацца ў сталіцу ды па Расіях. ***Ала.***

**На скрыжаванні Хмяльніцкага і Вялікага Гасцінца сутыкнуліся тры машыны. Дзве з іх таксі**

Чарговае пацвярджэнне таго, што праязджаць рэгулюемыя скрыжаванні неабходна выключна на зялёнае святло святлафора. Тычыцца ўсіх траіх! Аляксандр.

**Маладзечна прыцерушыла (Фотарэпартаж)**

Фотарэпартаж цёплы, нягледзячы на снег... ***Даламіт.***

Я не разумею, чаго ўсе захапляюцца тым, што снег выпаў? Фу-фу-фу. Мокра, слізка, холадна, цёмна, брыдка. ***Дэпрэсулька.***

Трох зайцаў злавілі, пакуль дайшлі да школы. ***Святлана.***

## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Усе свае зберажэнні аддаю на падарожжы.
– Зноў маршрутка падаражэла?
– Ага...

***

– Доктар, у мяне звініць у вушах.
– А вы не адказвайце.

***

Злавілі на вуду русалку. І раптам яна здымае хвост. І гаворыць мужчынскім басам:
– Ага, ўжо не ўцячэш! Ахова прыроды!

***

– Першага чалавека на Зямлі звалі Адам. А як будуць зваць апошняга, не ведае ніхто.
– Я ведаю! Надзея.
– І чаму?
– Таму што Надзея памірае апошняй.

***

Злавіў дзед залатую рыбку. Яна просіць:
– Адпусці, дзед, я тваё любое жаданне выканаю!
– Хачу быць Героем Савецкага Саюза!
І застаўся дзед сам-насам з трыма гранатамі супраць шасці танкаў.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№48 (1074) 27.11.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1499. Падпісана ў друк у 9.00 26.11.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.